

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС


Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 522 ЛІПЕНЬ 2006
Год выданьня 56


# Блізкія сябры на далёкім кантынэньце

## Нататкі пасьля паездкі ў Аўстралію

...У апошні аўстралійскі дзень давялося быць сьведкам сымбалічнай і кранальнай падзеі – адкрыцьця ў Сыднэі сьцяны-мэмарыялу зь імёнамі некалькіх тысячаў эміграннтаў, якія калісьці сыйшлі на бераг далёкага кантынэнту. Сярод імёнаў, высечаных на граніце, ёсьць і імёны Надзеі і Міхася Лужынскіх – адной з тысячаў беларускіх семьяў, закінутых лёсам ў Аўстралію. Для іхных дзяцей і ўнукаў "зялёны кантынэнт" стаў Радзімай; сам-жа спадар Лужынскі, які некалькі гадоў таму пахаваў жонку, марыць ізноў наведаць Беларусь.

Гэтая адданасьць Бацькаўшчыне, беларускі парыятызм, вернасьць Акту 25 сакавіка – вось што найбольш ўразіла нас з Старшынём Рады БНР Івонкай Сурвіллай падчас травеньскага гасьцяваньня ў Аўстраліі. Наша паездка стала магчымай дзякуючы спрыяньню Старшыні Беларускага грамадзка-культурнага клюбу Міхася Лужынскага, Старшыні Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі Аўгена Грушы, спадарстваў Грыцукоў, Кандрусікаў, Кавалеўскіх – ды бадай і не пералічыш усіх, чыю гасьцінасьць давялося адчуць на аўстралійскай зямлі.

Вядома, доўгі час у Аўстраліі ў беларускай грамадзе ішлі спрэчкі паміж прыхільнікамі Рады БНР і БЦР. Цяпер, выглядае, непаразуменьні ў мінулым. І сярод адных, і сярод другіх былі шчырыя беларускія патрыёты, чые імёны мы заўсёды будзем прыгадваць з удзячнасьцю. Сёньня-ж сам час вымагае ад беларусаў яднаньня, бо лукашэнкаўскім рэжымам пастаўленая на карту самае сьвятое – дзяржаўная Незалежнасьць.



Міхась Лужынскі каля мэмарыялу ў Сыднэі.

І ў Сыднэі, і ў Мэльбурне, і ў Адэляйдзе, ва ўсіх беларускіх суполках, зь якімі даводзілася сустракацца – адчувалася вельмі правільнае разуменьне вось гэтай галоўнай небясьпекі. У той час, як некаторыя менскія палітолягі сьцьвярджаюць, што, нібыта, Незалежнасьці Беларусі нічога не пагражае – за тысячы кілямэтраў ад Бацькаўшчыны, літаральна на супрацьлеглым баку плянэты, аўстралійскія беларусы аб'ектыўна ацэньваюць рэчаіснасьць. Тыя пытаньні, якія нам са спадарыняй Сурвіллай задавалі, прапановы, якія гучалі з вуснаў прадстаўнікоў аўстралійскіх беларускіх арганізацыяў, сьведчаць пра іхную добрую паінфармаванасьць.

Заканчэньне на бач. 8

# Купальле ў Нью Ёрку



У рэзэрвацыі Ward Pound Ridge у штаце Нью Ёрк 25–26 чэрвеня адбылося сьвяткаваньне Купальля. Беларуская справа – цяжкая ноша, і трымаецца яна на плячох сумленных беларускіх нацыяналістаў, якія нястомна кіруюцца сьветлай любоўю да Беларусі і яе сьвятых традыцыяў праз усё жыцьцё! Адразу трэба падзякаваць тым людзям, якія арганізавалі гэтае цудоўнае мерапрыемства Пятру і Алене Рыжым! Асобны дзякуй спадарыні Валі Якімовіч.

Надвор'е не спрыяла ахвочым адзначыць Купальле: большую частку дня ліў дождж, але-ж сабралася значная колькасьць людзей. Было больш за 30 хлопцаў і дзяўчат з блізкіх і далейшых ваколіцаў Нью Ёрку (у бальшыні гэтыя маладыя людзі прайшлі праз паседжаньні БАЗА і сходаў моладзёвай арганізацыі БАЗА). Таксама было каля 10 чалавек больш сталага веку. Павага людзям, якім дождж не перашкодзіў адзначыць народнае сьвята. Трэба дадаць, што напачатку выказалі жаданьне прыехаць каля 80 чалавек.

Да вечара надвор'е ўсё-ж зьлітасьцівілася над "купальцамі", і дождж перастаў! Па водгуках ранейшых удзельнікаў сьвята, дождж толькі пайшоў на карысьць: не было страшэннай звычайнай для гэтай пары году духаты й вільготнасьці. Разам з тым надвор'ем прайшла праверку на трываласьць беларускасьці тых, хто на сьвята не прыехаў.

Як сьцямнела, расклалі вогнішча, над якім было замацавана кола. Пачалося сьвята. Вадзілі карагоды, пелі народныя

Заканчэньне на бачыне 7

# Зь беларускага жыцьця ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі

## Удзел у парадзе

У Дзень Памяці (апошні панядзелак травеня) беларуска-амэрыканская грамада Саўт-Рывэру бярэ ўдзел у традыцыйным парадзе, які ладзяць амэрыканскія вэтэраны. Сёлета, як і папярэднімі гадамі, ініцыятарамі такога ўдзелу былі прыхаджане царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай і кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру.

Вялікі парад, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі гарадзкой улады, школьнікі, вэтэраны ды розныя арганізацыі й клюбы, прайшоў вуліцамі гораду са сьцягамі, транспарантамі, музыкай і песьнямі. Беларуская група несла транспарант "Царква Сьв. Еўфрасіньні", а таксама амэрыканскі й беларускі сьцягі. З мабільнага дыскагалосьніка раздаваліся беларускія песьні.

Ля помнікаў загінулым войскоўцам з часоў Першай і Другой сусьветных войнаў вэтэраны ўсклалі вянкі. Прамоўцы гаварылі пра памяць аб палеглых у абароне свабоды.

Заканчэньне на бачыне 2




Беларуская група ў парадзе. Транспарант нясуць (зьлева) Стывэн Лапіцкі і Валентын Дзямешчык. Са сьцягамі ідуць Жорж Наўмчык і Віталь Цярпіцкі.

# Гадавы зьезд ЗБВБ

Агульны гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі, 60-ы па ліку, адбыўся ў суботу 3-га траўня 2006 году.

Зьезд пачаўся, згодна праграмы, падрыхтаванай Галоўнай Управай ЗБВБ, а 14-й гадзіне ў залі Беларускага культурна-грамадзкага цэнтру ў Лёндане.

Старшыня ўступаючай управы спн. Леля Міхалюк прывітала прысутных, сярод іх і трох новых сяброў, і адкрыла зьезд. Яна папрасілі а. Аляксандра Надсона памаліцца за посьпех. Ён разам з нававысьвечаным айцом дыяканам Сяргеем Стасевічам памаліліся і пажадалі ўсім посьпеху ў працы.

Выбарчая мандатная камісія: Міхась Баяроўскі, Янка Ясьвіловіч, і Сыльвэстар Буткевіч, праверыўшы падлікі, пастанавіла, што кворум ёсьць, і зьезд будзе правамоцным.

У прэзыдыюм зьезду былі абраныя: старшыня Міхась Швэдзюк, сакратары Сяржук Вінаградаў і Мікола Пачкаеў.

Справаздачу ўступаючай управы здала спн. Л. Міхалюк. Яна адзначыла, што ўправа на працягу апошняга году працавала вельмі актыўна. Яе сябры рэпрэзэнтавалі ЗБВБ на зьездах у Бэльгіі, Летуве і Чэхіі, а таксама ў Лёндане ў справе абароны дэмакратыі ў Беларусі. Управа арганізоўвала імпрэзы на беларускія сьвяты, высылала віншаваньні ў дзяржаўныя ўстановы й беларускія арганізацыі. Дзякуючы стараньням сябраў управы беларускае пытаньне дыскутавалася ў брытанскім парлямэнце.

Скарбнік уступаючай управы сп. Сяргей Пяткевіч распавёў пра фінансавы стан арганізацыі. Шмат сродкаў было выдаткавана на рамонт беларускага дому ў Лёндане, а таксама гаражоў. З-за гэтых выдаткаў грошай у касе застаецца няшмат.

Дыскусія над справаздачамі была нядоўгая, і ўсе яны былі аднагалосна прынятыя.

Выбары новай Галоўнай управы далі наступныя вынікі: старшыня – Л. Міхалюк; заступнік старшыні - М. Пачкаеў; сакратар-скарбнік С. Пяткевіч; сябры ўправы: Павал Шаўцоў, Сяржук Вінаградаў, Андрэй Вышадак; наглядная рада: сп. Калінін, Алена Сенька і Джон Ясьвіловіч.

Спн. Л. Міхалюк падзякавала сябрам за давер і прапанавала закончыць зьезд адсьпяваньнем нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Смачны пачастунак прыгатавалі сяброўкі ЗБВБ Алена Сенька і Джын Дзэйка. Дзякуй ім вялікі! Пры чарцы віна час праляцеў хутка, і дэлегаты зьезду разьехаліся ў розныя куткі Англіі.

Жыве Беларусь!

**Сыльвэстар БУТКЕВІЧ**

# Дзіра ў даху

*У бубны дахаў вецер б'е*
*Грыміць па ім, зьвініць-пяе,*
*Ускіпела сьнежнае віно,*
*І белай пенай пхне яно.*

Я тут не пра выдатную Максімаву паэзія...

Мая справа куды больш празаічная: янот нейкім чынам разбудаваў дзірку ў даху майго таронцкага дому. Як яе залатаць і чым?

Янка Купала (быццам нехта спраўдзіў) пачынаў ад "чалавек, хоць ён мужык".

Мне часамі сьніцца Купалавы мужыкі. Самае горшае для мяне — польскія асаднікі, што нашымі панамі парабіліся і нас хамамі ды іншымі нягоднікам хламам называлі...

Вось і жывы.

Цяпер-жа, як назвалі яго іншыя паны, "век капутарны", надта-ж прагрэсіўны.

Дык што пра таго янота; які вунь у вялізнай хвоі ў суседа жыве, а ў маім даху дзірку зрабіў? Калі дождж, дык залівае хату.

- Ты з Таронта канадыйскага?
- Ага. Некаторыя-ж мне зайздросьцяць.
- Адкуль зь Беларусі?
- Ад Глыбокага.
- Таронта мае свае правы. Каб прагнаць янота, трэба спэцыяліста наняць.
- Ён надта дорага каштуе.
- Грошы ня маеш? Пазыч у якім банку ці асобы. Калі-б банк табе адмовіўся дапамагчы, дык ты ветліва нашу скарбніцу папрасі Марыйку. Яна царкоўнымі грашыма ладзіць...
- І дасьць пазыку?
- Вядома. Гэта-ж закон Бога. Так і зрабі.

Янот зрабіў нейкаму няверашчаму ў Бога дзірку на ягоным даху, а ты трапіш у рай.

- Во як! Дзякуй табе, Божы чалавек, нашай Сьвятой Беларусі Абаронца.

Жыве Беларусь бязь дзіркі ў даху!

**К. АКУЛА**

## Жыцьцё ў Саўт Рывэры

***Заканчэньне з бачыны 1***

### Фэстываль

Сястрыцтва й прыхаджане царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай (юрысдыкцыя Канстантынопальскага патрыярхату, настаяцель – а. Міхаіл) ушаноўваюць дзень патронкі свае царквы ладжаньнем фэсту. Сёлетняе сьвяткаваньне адбылося ў суботу 3-га чэрвеня. Хоць неба было хмарнае, зь перапынным дажджом, заля Беларускага нізатары расставілі наметы, пад якімі стаяла музычная апаратура, прадаваліся рэлігійныя прадметы, вітамінізаваныя напоі, жарылася сьвініна.

Канцэртную праграму арганізавалі спарарства Валентын і Тацьцяна Дзямешчыкі. Песьнямі ды інструмэнтальнай музыкай забаўлялі слухачоў у залі, пад акампанімэнт Т. Дзямешчык, салісты Лідзія Кано, Аляксандар Балотнік, Анастасія Стралец, а таксама Таня й Валянтын Дзямешчыкі ды ансамбль музыкаў пад кіраўніцтвам Дзіміра Бычкоўскага.



**Танцавальны гуртток "Лянок" выконвае беларускі карагодны танец.**

Амэрыканскага Цэнтру гудзела ад народу. Было што выпіць, смачна паесьці ды на што паглядзець на сталох, густа застаўленых мноствам ахвяраваных фантаў. Кожны меў нагоду паспрабаваць лятарэйнага шчасьця. І, трэба сказаць, шмат хто шырока адчыняў свой кашалёк. Арганізатары з дапамогаю дабраахвотнікаў старанна папрацавалі над падрыхтоўкай фэсту. Задзейнічана было ў ягоным правядзеньні некалькі дзясяткаў асобаў, якія завіхаліся ў адмысловa зробленых чырвоных кашульках на кухні й каля сталоў. Наведнікам, якіх налічвалася, бадай, больш за трыста, былі забясьпечаныя парадак і выдатная абслуга. Прадбачаючы мокрае надвор'е, арганізатары...

Танцавальная група, падрыхтаваная Віталіяй (Вілачкай) Ляўчук, управілася ў добры час паміж дожджыкамі пратанцаваць народныя танцы. Таксама прывабілі гледачоў гішпанскім нумарам дзьве танцаўніцы, маці з дачкой, Натальля й Сьвятлана Храновіч, яныя былі апранутыя ў шыкоўныя шматкаляровыя спадніцы-веeры.

На фэстывалі добра правялі час госьці зь Беларусі: віцэ-консуль РБ у Нью-Ёрку сп. Віктар Чараховіч з жонкай, а таксама мянчане сп. Мікола Матрунчык і Насьця Крывіцкая, удзельнікі Генэральнай Асамблеі ААН па пытаньнях СНІДу (AIDS).

**Я. З.**

# Віленчукі вандруюць па Гарадзеншчыне

*"Як жыць, дык жыць для Беларусі,*
*А без яе навошта жыць"...*
*(Ларыса Геніюш)*

Ня памятаю, хто сказаў, што чалавек, які не вандруе пражывае толькі адну старонку свайго жыцьця, а вандроўнік - некалькі. Гэта, напэўна, добра ведае старшыня Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве Хведар Нюнька, таму на працягу дзейнасьці гэтай арганізацыі адбылося шмат цікавых падарожжаў. Асабліва запомніліся Вільня-Сьвіраны-Рукойні-Кушляны-Жупраны-Арляняты-Крэва, Вільня-Менск-Бобры-Ворша-Віцебск-Полацк-Паставы, Вільня-Беласток і г. д. Гэтым разам адбылася заплянаваная экскурсія па Гарадзеншчыне - Вільня-Горадня-Ваўкавыск-Зэльва-Сынкавічы-Слонім-Дзятлава-Ліда.

Рана, а 6 гадзіне, выехалі зь Вільні, хутка праехалі мяжу, зрабілі прыпынак, выпілі кавы і паехалі ў Горадню, дзе нас чакаў Уладзімер Хільмановіч зь сябрамі. Прыехалі ў дамоўлены час на вакзал, паставілі на пляцоўку машыны (адной кіроўца адной Васіль Акуневіч, другой - старшыня ТБК Хведар Нюнька), і пайшлі па старых вулачках горада, які нам, віленчукам, дарагі тым, што ў ім жыў Васіль Быкаў, жыла Зоська Верас, жывуць Аляксей Пяткевіч, Данута Бічэль-Загнетава.

Нашым гідам быў Вітаўт Парфененка з дачушкай Алесяй. Асобы, якія любяць свой горад, добра ведаюць гісторыю, культуру. Нават той факт, што В. Парфененка нарадзіўся ў Горадні, а вышэйшую адукацыі атрымаў у Менску, Санкт-Пецярбургу, Варшаве і вярнуўся ў родны горад шмат аб чым гаворыць. Свае веды, любоў да гісторыі, цудоўнага перадаў дачушцы, яны дапаўняюць адзін аднаго.

Мы ў першую чаргу наведалі музэй Максіма Багдановіча. Вядома, спэцыяльны экскурсавод не спатрэбіўся, затым магілу маці паэта Марыі Багдановіч. Потым хадзілі па вулачках, спыняліся каля архітэктурных помнікаў, музэя А. Ажэшкі, пабывалі ў гарадзенскім замку, заходзілі ў касьцёлы, цэрквы, атрымоўваючы асалоду і задавальненьне. Першы дзень нашага падарожжа закончыўся на кватэры Ўладзімера Хільмановіча, дзе нас чакала ягоная жонка Іна з маленькай Лерай і зусім маленькім Ромкам.

На другі дзень раніцай мы паехалі ў Ваўкавыск. Тут нашым экскурсаводам быў Васіль Акуневіч з жонкай Яніцай. У гэтым горадзе яны бываюць раз на год у сястры Васіля. Мы пабачылі горад, даведаліся адкуль пайшла ягоная назва.

Наступным прыпынкам нашага падарожжа была Зэльва. Прыехалі да царквы, пастаялі каля помніка слыннай паэтцы Ларысе Геніюш. У гэтым мястэчку нас чакаў з багатай праграмай Юры Ткачук. Асноўнай мэтай нашага падарожжа было ўскласьці кветкі, сьхіліць нізка галаву і пачытаць вершы на магіле беларускай патрыёткі Ларысы Геніюш, аддаць дань памяці ад удзячных нашчадкаў. Апошнім пунктам у Зэльве была кватэра Юры Ткачука, дзе нас чакала ягоная жонка Ліля. Ён паказаў свае мастацкія працы, багатую бібліятэку, з захапленьнем распавядаў пра сваіх сяброў паэтаў, мастакоў. Падараваў выдадзеную ім кніжку Генадзя Каўша "Кружныя шляхі". Мала ёсьць такіх апантаных і адданых сваёй ідэі, як Юры Ткачук.

Далей наш шлях прадоўжыўся ў Сынкавічы, тут мы былі ўражаны помнікам 15 стагодзьдзя, агледзелі старажытную царкву, пабылі на службе, затым накіраваліся ў Слонім, потым у Дзятлава і Ліду. Блукалі па вулачках старажытных гарадоў Гарадзеншчыны, заходзілі ў касьцёлы, цэрквы, спыняліся каля архітэктурных помнікаў, заходзілі ў рэшткі замкаў, фатаграфаваліся, сустракаліся зь сябрамі, дзеячамі культуры, духоўна ўзбагачаліся. А паглядзець было што. Вандроўка была заплянаваная, узгодненая з У. Хільмановічам, які апекаваўся намі ў Горадні. Нават надвор'е вельмі спрыяла нашай вандроўцы, першыя цёплыя, сонечныя дні пасьля халоднай вясны.

Перад мяжой мы зноў зрабілі апошні прыпынак і, поўныя ўражаньняў ад пабачанага і пачутага, вярнуліся ў Вільню.

Гэтым падарожжам мы "напісалі" яшчэ адну цікавую старонку свайго жыцьця. Праехалі мы па Гарадзеншчыне больш за 500 кілямэтраў, вярнуліся позна вечарам, а спадар Хв. Нюнька сказаў, што праехаў-бы яшчэ столькі, бо стомленасьці не адчувалася.

Наперадзе новыя пляны, новыя сустрэчы, падарожжы.

**Леакадзія МІЛАШ**

# Беларусь за месяц

### У памяць У. Плешчанкі

Раніцай 27 чэрвеня ў мястэчку Лёзна (Віцебскай вобласьці) быў узьняты бел-чырвона-белы сьцяг з чорнай жалобнай стужкай. Сьцяг быў вывешаны на вяршыні 30-мэтровай мэталічнай вышкі пад напругай у 30 тысяч вольт, што стаіць на ўзгорку пры ўезьдзе ў гарадок з боку Віцебска. Паводле БелаПАН, сьцяг быў узьняты ў памяць аб старшыні абласной арганізацыі КХП—БНФ Уладзіміра Плешчанкі, які памёр 40 дзён таму на 58-м годзе жыцьця. Да сьцяга таксама была прымацаваная запіска са словамі: "Сьветлай памяці слаўнага сына зямлі беларускай Уладзімера Рыгоравіча Плешчанкі. Пакуль на беларускай зямлі жывуць такія людзі як ён, Беларусь жыла, жыве і будзе жыць вечна". Пад тэкстам стаяў подпіс легендарнага Мірона.

### Бунт у Віцебску

18 чэрвеня ў горадзе на асфальце зьявіліся графіці "Бунт", на даху Нацыянальнага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа — расьцяжка са слоганам "Бунт", у горадзе распаўсюджваліся ўлёткі з заклікам далучацца да негвалтоўнага супраціву, змаганьня за свабоду Беларусі ды ў падтрымку палітвязьняў.

Самая-ж гучная акцыя прайшла ўдзень 18 чэрвеня. Адна з кіраўнічак менскага намётавага гарадку Крысьціна Шацікава ўзьняла бел-чырвона-белы сьцяг на асьвятляльнай мачце ля летняга амфітэатру. Сьцяг правісеў паўгадзіны, пакуль байцы спэцназу ня скінулі яго ўніз і не арыштавалі Крысьціну, што прымацавала сябе да апораў. На наступны дзень жанчына была аштрафаваная на 4 мільёны 650 тыс. рублёў (каля $2170).


Крысьціна Шацікава

Яшчэ праз дзень 27-гадовы моладзёвы актывіст, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Дзяніс Дзяніс... патлумачыў журналістам сутнасьць "бунту": *"Мы вырашылі актывізаваць беларускае насельніцтва, сказаць, што выбары былі сфальшаваныя, і ня трэба чакаць пяць гадоў, бо ў нас няма легітымнага прэзыдэнта"*. Паводле Дзяніса, акцыі будуць ладзіцца па ўсёй Беларусі, а новы рух аб'яднаў сяброў былога моладзевага руху "Зубр", што ў траўні афіцыйна заявіў аб прыпыненьні дзейнасьці, "Маладога фронту" і проста маладых людзей, раней незаангажаваных у акцыях.

Тым ня менш 20 чэрвеня на прэс-канфэрэнцыі ў Менску ўдзельнікі віцебскіх акцый Крысьціна Шацікава, Ірына Завадзкая, Тацьцяна Дзядок і Міхаіл Субач абверглі інфармацыю, што "Бунт" — гэта рух, паведаміла газэта "Наша Ніва". *"Гэта не арганізацыя, — заявіла К. Шацікава, — гэта заклік да неабыякавых, знак да таго. што трэба змагацца"*. Чаму першым горадам быў абраны Віцебск? *"Мы часта сутыкаемся з тым, што нават у абласных гарадах нічога ня ведаюць пра менскія падзеі. Каб выправіць сытуацыю, мы аб'ездзем усе гарады Беларусі"*.

### Галадоўка

У канцы траўня — чэрвені ў Беларусі прайшла самая масавая галадоўка ў гісторыі краіны. 29 траўня галадоўку абвесьцілі ў Салігорску некалькі сябраў "Маладога фронту", пратэстуючы супраць зьняволеньня палітычных вязьняў ды пераследу актывістаў МФ. Пазьней да акцыі далучыліся іншыя людзі, частка ўдзельнікаў акцыі пераехала ў Менск. А яшчэ праз некалькі дзён галадоўка стала эстафэтнай: частка маладых людзей спыняла акцыю, іншыя — пачыналі.

13 чэрвеня менскіх удзельнікаў галадоўкі і іх сяброў (Антаніну Вежнявец, Зьмітра Дашкевіча, Алеся Паплыку, Артура Фінькевіча, Зьмітра Хведарука, Віктара Янчурэвіча, Аляксея Янушэўскага) затрымалі на вуліцы, абвінаваціўшы ў распаўсюдзе ўлётак.

15 чэрвеня спынілі акцыю галадоўшчыкі ў Салігорску, а 17 чэрвеня на ўсіх рэгіёнах. Яе арганізатары кажуць, што дабіліся свайго — увага грамадзкасьці прыцягнутая. Але, відаць, галадоўшчыкі нічога не дабіліся. На іх *сапраўды самаахвярны ўчынак* мала хто, апроч незалежных журналістаў, зьвярнуў увагу, ды й патрабаваньні ўлада ня выканала. Галадоўка прайшла па-за ўвагай апазыцыйных палітыкаў. Здаецца, адзіны, хто непасрэдна сустракаўся з галадоўшчыкамі, пераконваючы іх спыніць акцыю, быў Аляксандар Мілінкевіч. Іншыя-ж палітыкі, занятыя сваімі паўсядзённымі справамі, галадоўкі не заўважылі. У іх, відаць, былі больш важныя справы.

Тым часам суд па справе кіраўніцтва "Маладога фронту", якое абвінавачваюць ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі, перанесены на жнівень.

### Ілжывая Справаздача

Супрацоўнікі сусьветна вядомай экалягічнай арганізацыі "Грынпіс" у пачатку чэрвеня прэзэнтавалі ў Менску справаздачу аб дасьледаваньні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Справаздача эколягаў дыямэтральна розьніцца ад аналягічнага дасьледаваньня, праведзенага Міжнароднай агенцыяй па атамнай энэргіі (МАГАТЭ). Экспэрты МАГАТЭ тады сьцьвярджалі, што вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС моцна перабольшаныя: людзі, хутчэй, паміралі ў выніку атрыманага стрэсу, а не перадазіроўкі радыяцыі, на забурджаных землях не было зафіксавана росту захворваньняў, зьніжэньня нараджальнасьці альбо прыроднага калецтва дзяцей. Паводле МАГАТЭ, у выніку Чарнобыля памерлі чатыры тысячы чалавек, і гэтыя высновы цалкам супадалі з пазыцыяй афіцыйных уладаў, якія сьцьвярджаюць, што на забруджаных землях можна жыць і займацца сельскай гаспадаркай.

У "Грынпіс" справаздачу рыхтавалі некалькі дзясяткаў навукоўцаў з усяго сьвету. На прэс-канфэрэнцыі ў Менску яны заявілі, што аварыя на Чарнобыльскай АЭС пацягнула за сабой сьмерць ста тысяч чалавек. Прадстаўнік "Грынпіс" Іван Блокаў заявіў журналістам: *"Нельга казаць пра аварыю як пра звычайны выпадак. Нельга казаць, што сьвет кожны год можа вытрымліваць па адным Чарнобылі. Сьвет ня можа вытрымаць ніводнага Чарнобылю"*. А заявы МАГАТЭ былі прадыктаваныя эканамічнай кан'юнктурай.

### На "хімію" у Магілёў

Стала вядома, што актывіст Маладога фронту Артур Фінькевіч будзе адбываць "хімію" (два гады абмежаваньня волі) у горадзе на Дняпры, пра гэта паведаміла Радыё "Свабода". 29 чэрвеня Артур мусіў прыбыць у Магілёўскую спэцкамэндатуру. Нагадаем, што хлопец быў асуджаны за антыпрэзыдэнцкія графіці "Достал" і "Мы хочам новага". Перад судом хлопца палохалі вялікім тэрмінам: ад 7 да 12 гадоў за нанясеньне шкоды ў буйным памеры


Артур Фінькевіч

Беларускія "хімікі" пацяху асвойваюць прасторы краіны. Павал Севярынец – на поўначы Полаччыны, Мікола Статкевіч – у Баранавічах, Мікола Маркевіч сядзеў у Асіповічах (Магілёўская вобл.), Павал Мажэйка — у Жлобіне (Гомельская вобл.). Куды яшчэ не высылалі, дык гэта ў Гарадзенскую вобласьць.

### Сэрвіс пад наглядам

22 чэрвеня лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Аляксандар Казулін адмовіўся ад харчаваньня ў турме №8 горада Жодзіна, у якой знаходзіцца з 25 сакавіка. Свой крок былы кандыдат у прэзыдэнты матываваў наступнымі прычынамі: за некалькі дзён да гэтага ён прасіў перавесьці яго на дыетычнае харчаваньне (на ім у турме знаходзіцца больш за 100 зьняволеных), але кіраўніцтва ўстановы не задаволіла просьбу. "Цяпер ён будзе трымацца на перадачах і нашай падтрымцы", — заявіў у інтэрвію інфармацыйнай кампаніі БелаПАН адвакат палітыка Ігар Рынкевіч.

Між іншым, Аляксандар Казулін вырашыў скарыстацца ў турме паслугамі цырульніка. Але разам з цырульнікам у камэру ўваліліся яшчэ восем турэмшчыкаў. Лідэр БСДП стрыгчыся адмовіўся.

### Яшчэ адзін пакараны

Тры гады "хіміі" (абмежаваньня волі) атрымаў Мікалай Разумаў з Воршы за паклёп на прэзыдэнта (арт. 367 Крымінальнага кодэксу). Падставаю для завядзеньня крымінальнай справы стала заява пракуратуры на аснове відэазапісу, які зафіксаваў у Воршы 24 лютага сустрэчу выбарцаў з кандыдатам ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў Аляксандрам Мілінкевічам.

На відэастужцы была зафіксаваная прамова Мікалая Разумава, які са сцэны публічна заявіў пра датычнасьць Аляксандра Лукашэнкі да гучных палітычных зьнікненьняў.

Сп. Разумаў, які арганізаваў у 1991 годзе ў Воршы першыя ў Беларусі рабочыя страйкі (людзі перакрылі рух электрычак), з 14 сакавіка знаходзіўся пад вартай. Псыхіятрычная экспэртыза засьведчыла, што ён знаходзіўся ў адэкватным стане і мог адказваць за свае ўчынкі, хоць сп. Разумаў заяўляў пра тое, што нічога ня памятае пра сустрэчу зь Мілінкевічам. Тым ня менш суд (судзьдзя Тацьцяна Рыбакова) асудзілі рабочага актывіста на тры гады "хіміі".

### Азыль для журналіста

Журналіст, рэдактар ваўкавыскай "Местной газеты" Андрэй Шантаровіч зьвярнуўся ў аддзел па справах нацыянальнасьцяў і міграцыі Харкаўскай абласной адміністрацыі (Украіна) з просьбаю даць яму статус уцекача па палітычных матывах. "Местная газета" неаднаразова цярпела ад сваволі ўладаў, выданьне газэты прыпынялася, а сам рэдактар нават некалькі тыдняў галадаў у знак пратэсту. Відаць, журналіст стаміўся змагацца.

### Суд дбае пра Беларусь

Увечары 6 чэрвеня на беларуска-летувіскай мяжы здарыўся выпадак. Мяжу ля Воранава (Гарадзенская вобласьць) перасёк лёгкаматорны самалёцік і накіраваўся ў глыб нашай тэрыторыі. Беларускія сілы супрацьпаветранай абароны зрэагавалі бляскамгненна. На перахоп быў узьняты штурмавік Су-25, які хуткім і апэратыўным чынам прымусіў пілёта самалёта зрабіць пасадку на Лідзкім вайсковым аэрадроме. Пілатаваў самалёт, які ляцеў з вучэбнага аэрадрома пад Каўнасам, 30-гадовы Тадас Блажавічус. Зь ім знаходзілася сястра — Індра Блажавічутэ. Пілот патлумачыў, што не заўважыў, як перасёк паветраную мяжу зь Беларусьсю. Суд Воранаўскага раёну аштрафаваў пасажыраў самалёта на 150 базавых велічыняў кожнага (на $2170). Някепскае папаўненьне бюджэту. Яшчэ пяць такіх самалётаў па два пасажыры кожны, і краіна атрымае 20 тыс. даляраў "інвэстыцыяў".

### Дзе грошы ляжаць

Міністэрства фінансаў ЗША заблякуе знойдзеныя ў гэтай краіне любыя фінансавыя актывы або маёмасьць, якія належаць Аляксандру Лукашэнку, а таксама дзевяці асобам зь яго найбліжэйшага атачэньня. Рашэньне пра гэта прыняў прэзыдэнт ЗША Джордж Буш з мэтаю *"фінансавых санкцый супраць шэрагу чальцоў ураду Беларусі ды іншых асобаў, вінаватых ў падрыве дэмакратычнага працэсу альбо інстытутаў, парушэньняў правоў чалавека альбо карупцыі"*.

Апрача Лукашэнкі ў чорным сьпісе фігуруюць прозьвішчы міністра юстыцыі Віктара Галаванава, старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Аляксандра Зімоўскага, дарадцы прэзыдэнта па нацыянальнай бясьпецы Віктара Лукашэнкі (старэйшы сын кіраўніка дзяржавы), міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава, камандзіра спэцатраду хуткага рэагаваньня Дзьмітрыя Паўлічэнкі, намесьніка кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Натальлі Пяткевіч, старшыні КДБ Сьцяпана Сухарэнкі, старшыні Савета бясьпекі Віктара Шэймана, старшыні Цэнтрвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай.

Міністэрства замежных справаў Беларусі ў адказ прапанавала перапічыць усе знойдзеныя активы на патрэбы шэраговых амэрыканцаў.

Але сьмех сьмехам, а пытаньне ў іншым. Каб ня сталіся гэтыя захады амэрыканскай адміністрацыі стрэлам у малако. Няўжо беларускія найвышэйшыя чыноўнікі і праўда такія дурныя, што трымаюць рахункі на сваё імя ў банках ЗША. Альбо ўсё-ж іх грошы ляжаць у банках прыязных да Беларусі краінаў?

### Навіна футболу

Форвард футбольнай зборнай Беларусі Віталь Кутузаў новы сэзон распачне ў італійскім клюбе "Парма". Пры канцы чэрвеня пармэзанцы выкупілі беларуса ў генуэзскай "Сампдорыі" і "Міляна", якім ён належыў адначасова. У "Парме", якая ў мінулым сэзоне заняла 11–е выніковае месца, Віталь мусіць правесьці тры сэзоны.

Раней беларускі футбаліст выступіў за "Мілян", куды пераехаў з барысаўскага БАТЭ, "Авэліна" (дывізіён "В"), а таксама партугальскі "Спортынг".

Традыцыйна чэмпіянат у італійскай сэрыі "А" пачынаецца ў апошні уік-энд жніўня. Але гэтым разам можа быць перанесены на пазьнейшы тэрмін праз судовае разьбіральніцтва наконт дамоўных матчаў.

*Уласны карэспандэнт*

# Я яшчэ ў пошуку (інтэрвію)

**Юлія Вінакурава-Шатэрнік** нарадзілася ў 1982 годзе ў Менску, у сям'і вядомага скульптара й мастака Алеся Шатэрніка. У 2004 годзе скончыла мастацкі факультэт Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Культуры. Апрача жывапісу, захапляецца працай з калажам, ткацтвам і вышыўкай.

Творы Юліі Вінкуравай-Шатэрнік выстаўляліся ў Беларускім Нацыянальным Палацы Культуры, Музэі рускага сучаснага мастацтва Аляксандара Глэйзера ў Джэрзі-Сіці (Нью Джэрзі), International Stella Gallery (Парыж), Nectar Gallery (Лонг-Айленд), Vanderplas Gallery (Нью Ёрк) і інш. Шмат якія працы захоўваюцца ў прыватных калекцыях у розных краінах сьвету.

1 чэрвеня сёлета, у месьце Рыджвуд (Нью Джэрзі) у Рыджвудзкай публічнай бібліятэцы адчынілася першая пэрсанальная выстава мастачкі. Гэтая падзея сталася падставаю для гутаркі паміж Юліяй Вінакуравай-Шатэрнік і *Сержуком Сокалавым-Воюшам.*



**— Наўрад ці ёсьць у Беларусі мастакоўская сям'я, у якой дзеці цураюцца пэндзаля ці алоўка. Зразумела, ня ўсе яны вырастаюць у самастойных прафэсійных творцаў, і далёка ня ўсе ў 24 гады могуць пахваліцца гэткай геаграфічна шырокай прысутнасьцю ва ўсясьветным мастацкім працэсе. На тое трэба адпаведныя ўмовы, драбочак шанцаваньня, але, перад усім, своечасова заўважаны й разьвіты талент. Як-жа ўсё пачыналася? Які твой першы ўспамін пра ўласную творчасьць?**

— Зь дзяцінства любіла маляваць (пераважна алоўкамі й гуашшу) а таксама рабіць маленькія скульптурныя кампазыцыі з пластыліну (кветкі, грыбы, хатнія жывёлы). У майго бацькі была майстэрня на Дзімітрава, і я выразна памятаю, як ён часта браў мяне й маю сяброўку Машку (яна цяпер таксама мастачка, скончыла Акадэмію Мастацтваў як мастак-мадэльер) з сабою ў майстэрню, і мы ляпілі маленькія пластылінавыя скульптуркі. Памятаю таксама, як спрабавала дапамагчы бацьку ў ягонай працы (падкарэктаваць нос, лоб ці вочы у ягоных барэльефах). Але асаблівае захапленьне мела да стварэньня апраткі для лялек і самых лялек, што, дарэчы, атрымлівалася досыць добра.

З трынаццаці гадоў я пачала хадзіць у гурток мадэляваньня й канструяваньня адзеньня, у якім займалася чатыры гады й нават атрымала сэртыфікат. Там мы стваралі, шылі, а потым самыя паказвалі зробленае адзеньне на розных конкурсах... Гэта адзін з найлепшых успамінаў на ўсё жыцьцё...

Мой бацька быў зацікаўлены ў тым, каб я займалася мастацтвам. Ён бачыў ўва мне імкненьне да творчасьці, бачыў талент, разумеў, што па характару мне вельмі пасуе прафэсія мастачкі. У выніку мы вырашылі, што я буду паступаць ва Ўнівэрсытэт Культуры на факультэт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Нажаль, я не была дастаткова прафэсійна падрыхтаваная (малюнак, жывапіс) каб паступіць у Акадэмію Мастацтваў, а вось для Ўнівэрсытэту Культуры бацька падрыхтаваў мяне ня кепска. І вось на працягу пяці гадоў я прафэсійна вывучала ткацтва, вышываньне, а таксама жывапіс, малюнак, кампазыцыю, дызайн...

**— Калі ты ўжо закранула асобу бацькі, варта было-б сказаць шырэй пра ягонае месца на тваім мастакоўскім шляху...**

— На маім мастакоўскім шляху творчасьць і асоба бацькі займае самае галоўнае месца. Папершае, я перакананая, што талент маляваць у мяне – ад яго. Мой бацька вельмі таленавіты. Апрача скульптуры, якой ён шмат гадоў займаецца прафэсійна, апошнія 15 гадоў у ягонай твочасьці знайшлі сваё месца напісаныя алейнымі фарбамі карціны, а таксама вершы ды імпрэсіі. Іх, пад назваю "Сонцакрыж", можна пачытаць у сьвежым нумары часапісу "Arche".

Бацькавы творы заўседы ўражвалі мяне. Ён вельмі добра адчувае колер і гармонію шматколернасьці. Тон ягоных карцінаў пераважна пастэльны. Калі я гляджу на ягоныя імпрэсіяністычныя краявіды нашай Бацькаўшчыны, я адчуваю цеплыню, спакой, а самае галоўнае – яны натхняюць мяне, клічуць да пэндзля, да працы.

Я атрымала мастацкую адукацыю ў Беларускім Унівэрсытэце Культуры, але ўзьдзеяньне майго бацькі дапамагае авалодваць сакрэтамі выяўленчага мастацтва.

Вядома, на станаўленьне мяне як мастачкі, паўплывала таксама й тое, што бацька часта браў мяне на адкрыцьці выставаў, пленэры, мастацкія тусоўкі... Можна скончыць якую заўгодна мастацкую навучальную ўстанову, можна самому гадамі спасьцігаць сакрэты выяўленчага мастацтва й почасту знаходзіць даўно знойдзеныя Амэрыкі, а можна мець побач майстра, які словам і творчасьцю дапамагае авалодаць згаданымі ўжо сакрэтамі.

**— Хто з мастакоў найбольш уражваў раней, і хто цяпер? Чаму?**

— Найбольш мяне ўражвае Беларускае мастацтва. У нас ёсьць лецішча, якое знаходзіцца ў найпрыгажэйшым месцы краіны – у вёсцы Вайшхуны, што на Блакітных азёрах, там, дзе мяжуюць Менская й Віцебская вобласці. Гэта вёска знакамітая беларускімі мастакамі, такімі як Сулкоўскі, Маркавец, Баталёнак, Назарчук, Шатэрнік. Зразумела, мастакі заўсёды зьбіраліся, абмяркоўвалі свае творы, эцюды, і мяне вельмі ўражвалі тыя цудоўныя працы з краявідамі нашых Блакітных азёраў. Таксама мяне захапляе талент нашага вядомага мастака, старшыні суполкі "Пагоня" і добрага сябра майго бацькі Алеся Марачкіна. Алесь – цудоўны шматпрофільны мастак. Ён працуе ў розных жанрах жывапісу, графіцы. Ягоная творчасьць вылучаецца асацыятыўна-алегарычным мысьленьнем, асэнсаваньнем беларускай гісторыі і традыцы. Усё гэта ня толькі ўражвае мяне, але й натхняе на стварэньне сваіх уласных твораў.



**— Згаданыя табою мастакі належаць да розных мастацкіх плыняў, розных школаў. А да якой школы сябе адносіш ты?**

— Я яшчэ ў пошуку. Мне падабаюцца розныя стылі: імпрэсія, мадэрн, абстракцыя, класычныя нацюрморты. Стылі ў мяне ўзаемадзейнічаюць: магу злучаць іх, напрыклад, імпрэсію з мадэрнам. Люблю экспэрымэнтаваць у форме: пісаць ці пастозна-вялікім мазком, адначасна выяўляючы рытмы, формы і фактуры рэчы, ці лірычным, пастэльным колерам, стараючыся не губляць гармоніі. Вельмі важна ў жывапісе, каб колер узаемадзейнічаў і ў гэтым мне дапамагла Беларуская школа, мае настаўнікі па жывапісу і кампазыцыі, за што я ім вельмі ўдзячная. А мая цяга да імпрэсіі – гэта, вядома-ж, ад бацькі.

**— А што ты думаеш пра вольную творчасьць у сёньняшняй Беларусі? Як мастакі твайго тыпу адчуваюць і разумеюць волю й няволю ў мастацтве?**

— Воля ў мастацтве існавала заўсёды. Галоўнае, каб мастак быў вольны духам, і тады ніякія абмежаваньні на яго не паўплываюць. Мастацтва – гэта ўнутраннае жыцьцё чалавека, ягоны сьветагляд, ягонае стаўленьне да падзеяў, ягоная духовасьць. Вось-жа гэты ягоны ўнутранны сьвет і ўплывае на ягоную творчасьць.

**— 31 чэрвеня зачынілася твая пэрсанальная выстава ў Рыджвудзе. Якія працы пабачылі там наведнікі?**

— Выстава складалася з 22 твораў. Гэта характэрныя для мяне працы: імпрэсіяністычныя алейныя нацюрморты й фігуратыўныя (таксама алейныя) кампазыцыі ў стылі мадэрн, якімі так багатае амэрыканскае мастацтва. Зрэшты, ня будзем забывацца, што ў разьвіцьцё сучаснага выяўленчага мастацтва нагул, і амэрыканскага ў прыватнасьці, значны ўнёсак зрабілі мастакі знакамітай "віцебскай школы", такія як Марк Шагал ды Казімер Малевіч.



**— А чым адрозьніваецца працэс арганізацыі выставы ў Беларусі ад таго-ж самага працэсу ў іншых краінах?**

— Працэс арганізацыі выставы ў Беларусі й за мяжой падобны тым, што як дома, так і тут існуюць калектыўныя, тэматычныя, пэрсанальныя, канцэптуальныя выставы. Але ў Амэрыцы: мастак вольны ў сваіх думках і выказваньнях, у сваёй мастацкай дзейнасьці, што не заўсёды ёсьць у Беларусі.

Тут вельмі шмат мастакоў, і прадаць свае працы зусім ня проста, павінна быць рэклама, раскрутка... І ўсё-ж тут мастацтва запатрабаванае больш, Магчыма таму, што тут больш матар'яльна забясьпечаных людзей.

У Беларусі зрабіць пэрсанальную выставу складаней. Гэта зьвязана й зь невялікай колькасьцю заляў і з матар'яльным станам наведнікаў. Таму беларускія мастакі імкнуцца выстаўляцца за мяжою, асабліва моладзь. Вельмі ня кепска выстаўляюцца ў Эўропе маладыя мастакі, якія толькі атрымалі вышэйшую мастацкую адукацыю. Можна выставіцца ў бібліятэках.

**— А ці малюеш ты карціны на замову?**

— Я малюю ўсё... У любым стылі. А яшчэ вучу маляваць іншых. Прыкладам, цяпер у мяне вучыцца малюнку й жывапісу дзесяцігадовая дзяўчынка.

На заканчэньне нашай размовы я папрасіў Юлю згадаць якінебудзь цікавы выпадак з мастакоўскага жыцьця. У выніку атрымаўся абразок, які мая суразмоўніца назвала:

## Адным словам мастакі

Гады са тры таму мы, гэта значыць я з мужам Алесем і мой бацька, удзельнічалі ў пленэры, прысьвечаным Язэпу Драздовічу. Справа была на вялікім Богінскім возеры, што на Браслаўшчыне.

Мы з Алесем крыху спазьніліся, але затое прыехалі падрыхтаванымі як мае быць, сур'ёзна: мелі вялікі намёт, рыбацкія прылады для падводнага

*Заканчэньне на бач. 8*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org № 7 (486)


# Чэрвеньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкім памешканьні пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага 11 чэрвеня 2006 году адбыўся чарговы чэрвеньскі сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу Віталь Зайка паведаміў пра надыходзячы Марш Паняволеных Народаў у ліпені, даў кароткі агляд падзеяў у Беларусі за мінулы месяц. Ён узгадаў, у прыватнасьці, галадоўку сяброў "Маладога фронту" у Менску, Салігорску й шэрагу іншых мясьцінаў супраць пераследу й арыштаў рэжымам Лукашэнкі сяброў гэтай арганізацыі. Непаўнагадовыя сябры "Маладога Фронту" выйшлі з галадоўкі пасьля размоваў з А. Мілінкевічам, які адведаў галадоўнікаў. Наагул моладзь працягвае быць актыўнай, праз яднаньне, правядзеньне флэш-мобаў, распаўсюд інфармацыі.

Характэрнай навіной напярэдадні далейшых перамоваў пра энэрганосьбіты з Расеяй ёсьць заява дыктатара Лукашэнкі пра тое, што Беларусь, як сувярэнная дзяржава, пры любых умовах ня ўвойдзе ў склад Расейскай Фэдэрацыі. Улады Беларусі заявілі пра зацьверджаньне сьпісу асобаў з краінаў вольнага сьвету, якім забараняецца ўезд у Беларусь, у адказ на забарону ўезду ў краіны Эўропы й Амэрыкі для вышэйшага чынавенства рэжыму Лукашэнкі. Цікава, што сам сьпіс апублікаваныя ня будзе, што робіць магчымай забарону на ўезд для любой асобы, якую ўлады Беларусі палічаць "непажаданай".

Далей прамоўца ўзгадаў становішча ў шэрагах апазыцыі й заклікі да правядзеньня новага Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Працягваюцца манэўры рэжыму па "ўтаймаваньні" апазыцыйных партыяў: вэтэраны абедзьвух кампартыяў у Беларусі, апазыцыйнай (ПКБ) і пра-лукашэнкаўскай (КПБ) выступілі за правядзеньне аб'ядноўчага зьезду на плятформе КПБ. У надыходзячым ліпені месяцы ў Санкт-Пецярбургу адбудзецца сустрэча на вышэйшым узроўні кіраўнікоў краінаў "вялікай васьмёркі", у якую ўваходзяць 7 найуплывовейшых краінаў сьвету, а таксама Расея. Дзеля далейшага руху Расеі ў бок, адваротны дэмакратыі, і ейнай падтрымкі рэжыму Лукашэнкі ды іншых антыдэмакратычных рэжымаў, амэрыканскія палітыкі й уплывовыя журналісты заклікаюць прэзыдэнта Буша ўстрымацца ад удзелу ў сустрэчы ў расейскім Санкт-Пецярбургу.

Затым слова ўзяў беларускі студэнт у Амэрыцы Яўген Вайткевіч. Ён падзяліўся ўражаньнямі пра сваё нядаўняе наведваньне Беларусі, пра сустрэчы з прадстаўнікамі апазыцыйных і праваабарончых арганізацыяў. Агульнае ўражаньне — у людзей няма ранейшай абыякавасьці, ёсьць абурэньне сваволяй рэжыму, прага пераменаў. Моладзь пачынае разумець, што дзеля забесьпячэньня ўласнай будучыні нельга жыць далей так, як жывуць іхныя бацькі. Шмат хто выказвае непакой і абурэньне станам беларускай мовы. Актыўна праводзяцца маладзёвыя акцыі; выглядае, што новыя і новыя сілы паўстаюць на барацьбу з рэжымам, за годнае жыцьцё, дэмакратыю і свабоду. Моладзь актыўна падтрымлівае гурты, што не заплямілісь падтрымкай рэжыму, што бяруць удзел у фэстах "Басовішча". Знаёмыя бізнэсмэны ў Беларусі кажуць, што няпэўныя сваёй будучыні, ніхто ня ведае, калі й у які бок павернецца заканадаўства, і пачнецца новы наступ на прадпрымальніцтва.

Падчас сустрэчаў у Беларусі выказвалася думка, што Амэрыка больш, чым Эўропа ці Расея, зацікаўленая ў аднаўленьні свабоды й дэмакратыі ў Беларусі. Таму, на думку прамоўцы, кожны з нас, хто мае нейкую магчымасьць данесьці інфармацыю пра Беларусь да амэрыканскай грамадзкасьці, праводзіць акцыі ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі — мусіць гэта рабіць. Як прыклад прамоўца назваў свае дзеяньні па збору подпісаў у падтрымку Беларусі сярод амэрыканскіх студэнтаў-юрыстаў, артыкулы пра Беларусь для Амэрыканскай асацыяцыі юрыстаў. "Чым больш у Амэрыцы будуць ведаць пра Беларусь, тым больш стануць зьвяртаць на яе ўвагу, больш дапамагаць у змаганьні за свабоду й незалежнасьць".

Прамоўца адказаў на пытаньні слухачоў.

З сваімі заўвагамі па тэме выступу да прысутных зьвярнулася спн. Гражына Залеўская.

Затым да прысутных з паведамленьнем аб правядзеньні сьвята Купальля зьвярнулася сакратар аддзелу БАЗА спн. Валянціна Якімовіч. Яна паінфармавала пра час і месца сьвяткаваньня і заклікала жадаючых навучыцца беларускіх народных сьпеваў і тых, хто наагул хацелі-б сьпяваць, сабрацца разам і арганізавацца.

Напрыканцы сходу прагучэлі аб'явы й паведамленьні. Пасьля сходу прайшло паседжаньне ўправы аддзелу.

**Віталь ЗАЙКА**

# Жыць для Беларусі

*Гісторыю справў вялікіх твораць людзі,*
*якіх у нетрах узгадаваў народ.*
*Былі мы ад вякоў, мы ёсьць. Мы будзем,*
*на спадчыне дзядоў сваіх – крывіцкі род!*

**Л. Геніюш «Даўніна»**

У грамадзкай залі сабору Св. К. Тураўскага ў Брукліне 4 чэрвеня адбылася імпрэза, прысьвечаная слыннай беларускай паэтцы-патрыётцы Ларысе Геніюш. Арганізатарамі выступілі культурна-асьветніцкая фундацыя Орса-Романо і маладзёвая арганізацыя БАЗА.

Адкрыла сустрэчу і прэзэнтавала яе праграму спн. Алла Орса-Романо.

З уступным словам зьвярнуўся да прысутных др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Пачаў ён не адразу з асобы паэткі, а намаляваў слухачам, сярод якіх была пераважна моладзь, малюнак той эпохі, у якой жыла Ларыса Геніюш. Выступоўца зрабіў гэта праз расповед аб уласным жыцьці. Народжаны ў Менску ў 1927 годзе, ужо ў 1932 ён з бацькамі быў высланы сталінскімі ўладамі ў Арол. Так-жа нялюдска абыйшлася чужынская беларусам улада зь сем'ямі дзясяткаў тысяч беларускіх патрыётаў з мэтаю зламаць, вынішчыць іх беларускасьць, зрабіць усіх аднолькавымі савецкімі грамадзянамі. У час вайны Кіпелям пашчасьціла выбрацца на Захад.

Кожная эпоха давала Беларусі герояў. Такімі былі Францішак Скарына, Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі. Ларыса Геніюш стаіць у іх шэрагу. Яна здолела вытрымаць ціск савецкай улады і стаць адной зь нямногіх беларускіх дысыдэнтаў. Чаму-ж улады спрабавалі яе зьнішчыць? Шмат у чым тлумачэньне палягае ў сытуацыі, якая склалася ў тыя гады. Пасьля таго, як Рыская дамова падзяліла Беларусь паміж сквапнымі суседзямі, беларускае адраджэньне працягвалася ў Латвіі, Польшчы, БССР. І ў тых умовах у беларусаў застаўся толькі адзін цэнтар, які рэпрэзэнтаваў іх на міжнародным узроўні, бо астатнія дзейнічалі ў мясцовым маштабе. Гэтым цэнтрам была Рада БНР у Празе.

Першым прэзыдэнтам БНР быў Пётра Крэчэўскі (да 1929 г.), другім – Васіль Захарка (да 1943 г.). перад сьмерцю В. Захарка перадаў архівы БНР на захаваньне Ларысе Геніюш і Міколу Абрамчыку.

Пасьля вайны палітычныя цэнтры Беларусі былі расьцярушаныя. У Празе незаконна, бо яна ніколі не была грамадзянкай СССР, арыштавалі і выдалі савецкім уладам Ларысу Геніюш. Тыя выслалі змагарку ў канцлягер. Але і гэта яе не зламала, і грамадзянства СССР яна так ніколі і не прыняла!

Пасьля з рэфэратам аб біяграфіі Ларысы Геніюш на тэму "Вера, сям'я, зямля" выступіла Каця Рэзьнікава. Яна выказала думку аб тым, што сучасныя ўлады Беларусі ідуць тым-жа кірункам, што і савецкія – замоўчваюць спадчыну Ларысы Геніюш і сьведама фальсыфікуюць беларускую гісторыю. Спн. Рэзьнікава засяродзіла ўвагу на асабістым асьпэкце жыцьця паэткі: унучка прыгонных сялянаў, яна выдатна разумела памкненьні свайго народу. Як жанчына магла вытрымаць столькі выпрабаваньняў? Адказ можна знайсьці ў яе лістах. Вера ў Бога – тое, што давала ёй моц у супрацьстаяньні жыцьцёвым выпрабаваньням!

Далей адбылося чытаньне вершаў паэткі. Спн. Валя Якімовіч прачытала верш "Страх", а сп. Андрэй Чыж дэклямаваў напамяць верш "Зубры", чым выклікаў гучныя воплескі прысутных.

Паэт Сяржук Сокалаў-Воюш у сваім выступе падзяліўся ўражаньнямі ад наведваньня дома паэткі. Пасьля вызваленьня з лягеру Л. Геніюш жыла ў Зэльве, на радзіме мужа. Жыла вельмі бедна, і госьці, якія прыяжджалі, стараліся прывезьці больш ежы, каб нешта засталося ў хаце пасьля іх візыту, але і каб не пакрыўдзіць гордую жанчыну. Другая палова хаты, дзе жыла пясьнярка, відавочна, належала тым, каго прыставілі да яе з мэтаю сачыць. У такіх умовах яна жыла.

Сп. Антон Шукелойць – Старшыня Галоўнай Управы БАЗА выказаў сваё бачаньне асобы паэткі. У гісторыі ёсьць людзі, якія назаўсёды ўпісалі туды сваё імя. Вельмі часта такія выбітныя асобы жывуць зусім непрыкметна. Лазячы між балот цяжка быць чыстым. Многія палітыкі запэцкаліся. Геніюш – не заплямілася. Перажыла некалькі акупацыяў, не здрадзіла праваслаўю, захавалася ад немцаў, не ўступіла ў саюз пісьменьнікаў, куды запрашаў яе М. Танк! На магілах такіх герояў трэба прысягаць на вернасьць Беларусі!

З эмацыйным успамінам зьвярнуўся да прысутных сп. Барыс Данілюк – сакратар кансісторыі БАПЦ. Ён бачыў паэтку жывую і маладую на II-м Усебеларускім кангрэсе, дзе ён быў адным з дэлегатаў. Доля ўшчодрыла сп. Данілюка змаганьнем разам з Янкам Геніюшам. Так з выдатнымі змагарамі поруч заўсёды стаялі іх жонкі і мужы. "І мы ня ведаем, ці атрымалася-б з Ларысы Міклашэвіч тая паэтка, якую мы ўсе шануем, каб не яе муж!"

Падсумоўваючы трэба адзначыць, што сустрэча атрымалася! Заплянавана працягнуць ушанаваньне сьветлай памяці Героя Беларусі праз арганізацыю падобных мерапрыемстваў.

**Мікалай ЦІМАШЭНКА**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S apt. 9*
*Brooklyn, NY 11223*
**Чэкі выпісвайце на**
*Belarusan American Association.*

**Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА. Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| А. Кіпель ............$ 240 | Т. Міцкевіч ............30 |
| А. Астапчук ............30 | Т. Піліповіч ............30 |
| І. Казлоўскі ............30 | |
| А. Міцкевіч ............30 | |

**Шчыры дзякуй!**

## Увага! Наступны сход

нью ёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **9 ліпеня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue ў Брукліне***
Пачатак сходу апаўдні. Запрашаем усіх жадаючых.

Нашая фанатэка

# “СТАРЫ ОЛЬСА”: мы чуем рэха слаўных перамог!




Гурт “Стары Ольса” сёньня займае вядучае месца на беларускай мэдыявальнай сцэне. Бо музыкі ня толькі стала граюць пасьпяховыя канцэрты па Беларусі, але і прадстаўляюць старажытную музыку нашай краіны за мяжой, выкарыстоўваюць новыя мэтады для прапаганды нацыянальнай гісторыі ў маладзёвым асяродзьдзі (“Сярэднявечныя дыскатэкі”), удасканальваюцца як выканаўцы і як дасьледчыкі беларускай музычнай даўніны.

“Стары Ольса” – рэкардсмэн па колькасьці пабочных праектаў, якія стварылі ягоныя ўдзельнікі. Так, разам са “Старым Ольсам” на фэстах і канцэртных пляцоўках цяпер працуе тэатар сярэднявечных мініятураў “Яварына”. Музыкі “Старога Ольсы” Алесь Чумакоў і Андрэй Апановіч зьяўляюцца ініцыятарамі стварэньня такіх, ужо вядомых сярод аматараў старажытнай музыкі гуртоў, як “Келіх кола” (удзельнікі займаюцца адраджэньнем беларускіх гусьлярскіх традыцыяў) і “Ліцьвін Троль”, што выконваюць экспрэсыўныя сярэднявечныя беларускія і эўрапейскія мэлёдыі пад беларускую дуду і баявыя бубны...Былая фляйтыстка “Старога Ольсы” Кацярына Радзівілава цяпер працуе з маладым гуртом сярэднявечнай музыкі “Вайдэлот”. Дзейнічае пры гурце і свая выдатная майстэрня па вытворчасьці і рэканструкцыі старажытнага музычнага інструмэнтарыя. Для слухачоў-ка галоўнае, што “Стары Ольса” кожны год выдае па значнаму альбому, якія, па добрай завядзёнцы, адразу становіцца набыткам сучаснай беларускай культуры, абмяркоўваецца ў асяродках аматараў і слухачоў, часьцяком зьяўляюцца нагодаю для дыскусіяў пра шляхі рэканструкцыі беларускай музычнай даўніны. Ёсьць у дыскаграфіі гурта і арыгінальныя літаратурна-музычныя кампазыцыі, відэаклібы і відэастужкі...

Уся гэтая разнастайная і актыўная дзейнасьць “Старога Ольсы” на беларускай мэдыявальнай сцэне дазваляе лідэру гурта Зьміцеру Сасноўскаму і ягоным сябрам адкрываць сваім прыхільнікам усё значнейшыя плясты нацыянальнай музычнай спадчыны, вяртаць у нацыянальны кантэкст тое, што па праву нашчадкаў славы і традыцыяў Вялікага Княства Літоўскага належыць беларусам. Пры гэтым, музыкі застаюцца прыхільнікамі вяртаньня і таго, што можна аднесьці да “папулярнай” сярэднявечнай музыкі – музыкі для вулічных скокаў, прыдворнага таньчаньня і застольных сьпеваў. Цікава, што пасьля чарговага танцавальнага альбому “Стары Ольса” амаль заўсёды выдае грунтоўную музычную энцыклапэдыю з адроджанымі сярэднявечнымі творамі беларускага ці эўрапейскага паходжаньня. Гэтую тэндэнцыю можна прасачыць, калі прааналізаваць дыскаграфію гурта, якая, дарэчы, складае ўжо восем паўнафарматных дыскаў. Вось і сёлета, пасля выхаду канцэртніка “Сярэдневечная дыскатэка” (2005 г.) зь беларускімі і эўрапейскімі танцавальнымі мэлёдыямі, музыкі ажыцьцявілі выданьне грунтоўнага альбому “Гераічны эпас. Сьпевы рыцараў і шляхты Вялікай Літвы”.

Зразумела, што па зьместу і музычнаму суправаджэньню гэтая кружэлка моцна розьніцца ад папярэдняга альбому “Старога Ольсы”, таму што на ейных трэках наноў загучалі жорсткія, суровыя, крывавыя па-сутнасьці вайсковыя і рыцарскія баляды, песьні і, пакладзеныя на фальклёрныя мэлёдыі, урыўкі зь летапісаў ці творы сярэднявечных паэтаў-рыцараў. Лексыка гэтых песень адпаведная: “як жывёл рубалі”, “на ражон узьнялі”, “нашы колюць, рэжуць, б’юць, волю зброі даўшы”, “кроў хлюпоча, ліецца па траве сплывае”, “усіх забівалі, а не фальковалі” (зн. ня бралі ў палон)...

Нам-жа, сёньня трэба зразумець тыя крывавыя рэаліі, што былі неад’емнаю часткаю сярэднявечных войнаў. Адпаведная эпосе жорсткасьць не магла ня быць не адлюстраваная ў ваенных і рыцарскіх песьнях і балядах. Адначасова, гэтыя творы даюць нам рэальныя прыклады высакароднай рыцарскай мужнасьці нашых продкаў, баронячых сваю зямлю ад захопнікаў усіх масьцей. Нагадаць пра стаічны гераізм продкаў з дапамогаю музычных помнікаў мінулых часоў і стала пасылам альбому “Гераічны эпас. Сьпевы рыцараў і шляхты Вялікай Літвы” да сучасных слухачоў.

Альбом распачынаецца вельмі ўзнёслым “Словам пахвальным Георгію” ў выкананьні Зміцера Сасноўскага, якое зьяўляецца своеасаблівым intra да ўсёй праграмы. А вось наступная песьня “Падымаліся чорны хмары...” (Абарона Крычава) распавядае пра трагічныя падзеі, зьвязаныя з набегамі крымскіх татараў на беларускія землі. Зь яе радкоў можна зразумець, што захопнікі рэгулярна атрымлівалі ў каршэль, як гэта адбылося падчас абароны Крычава.

Сапраўдная пярліна новага альбому – адроджаны вайсковы духоўны гімн “Песнь о велебной девици панне Марии” ці “Багародзіца”. Услухоўваючыся ў старажытныя словы гімна-малітвы, быццам чуеш галасы тых вояў ВКЛ, якія клянуцца аддаць жыццё за волю Бацькаўшчыны і рыхтуюцца ў той момант да бітвы. Хоць мэлёдыя “Багародзіца” можа падацца манатоннай, музыкам удаецца перадаць рыцарскую адданасьць тых, хто ішоў на бой з драпежным ворагам, прыхільнасьць продкаў хрысьціянскім ідэалам і іх унутраны спакой перад абліччам сьмерці. Хочацца адразу адзначыць вельмі тонкую працу Зміцера Сасноўскага, як сьпевака і дэкляматара тых ці іншых тэкстаў, якія гучаць у асноўным на старабеларускай мове. Зміцер віртуозна іх інтэрпрэтуе, ставіць сэнсавыя акцэнты ў залежнасьці ад мэлядычнай лініі таго ці іншага твору, укладвае адпаведную сэнсу твора інтанацыю.



Асаблівую цікавасьць для слухачоў, безумоўна, складзе кампазыцыя “Грунвальдзкая бітва 1410 г.”, што створаная на словы Мацея Стрыйкоўскага паводле “Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі” (1582). Выконваецца яна Зьміцерам Сасноўскім у жанры гусьлярскай баляды, у перакладзе А. Дзітрыха. У камэнтарах да дыску можна прачытаць, што твор у арыгінале завецца “Пра слаўную вайну і слаўную бітву Ягайлы і Вітаўта з прускімі крыжакамі і князямі Нямецкага рэйху (!) ў 1410 годзе.” Баляда мае вельмі яскравае кампазыцыйнае разьвіцьцё. З. Сасноўскі, услед за М. Стрыйкоўскім, імкнецца перадаць крывавасьць змаганьня, драматызм пераломнага моманту ў бітве, а потым – бязьлітаснае вынішчэньне пераможанага ворага і радасьць народаў Літвы і Польшчы з нагоды перамогі пад Грунвальдам.

Панегірычную частку новага альбому “Старога Ольсы” распачынае “Пахвала Вітаўту”, у якой узьнёслым паэтычным словам намаляваныя вельмі яскравыя гістарычныя акалічнасьці з жыцьця і дзейнасьці манарха Вялікага Княства Літоўскага, праслаўляецца ягоная дзяржаўная мудрасьць. Гэтую тэматыку працягвае “Пахвала гетману Астрожскаму”, у якой ананімны аўтар ухваляе мужнасьць і вайсковы талент Астрожскага і адначасова, што ён мае права быць “прыраўнаны велікім, храбрым рыцэрэм слаўнага града Родаса...”

Тэматыка войнаў паміж ВКЛ і Масковіяй (1512-1522 г.) адлюстроўваецца вершаванай аповесьцю “Аршанская бітва” (словы М. Стрыйкоўскага, пераклад А. Дзітрыха), што пакладзена на матыў вядомай у Беларусі і ў Эўропе народнай песьні “Куды едзеш, Рамане”. Гэты твор – рэканструкцыя нашай музычнай спадчыны па прынцыпу: “так гэта магло гучаць у тыя гады.” Для дасягненьня тэматычнай пераемнасьці з папярэдняй тэмай, выкарыстоўваецца колавая ліра А. Чумакова, прызыўна і трывожна гучаць лютня І. Кубліцкага і дуды З. Сасноўскага. Зноўжа, слухачы адчуюць лютую нянавісьць аўтара да ворагаў, якія ўварваліся на нашую зямлю. У песьні ўхваляецца стратэгічны талент Астрожскага. І гэтыя радкі хочацца працытаваць:

*Ды гарматы Канстанцін, гэй*
*загадаў схаваці*
*Каб маскоўцаў потым тых, гэй*
*на ражон узьняці*
*Канстанціна ваяры, гэй у бакі*
*зьвярнулі*
*А гарматы па маскве, гэй ды з*
*кустоў пальнулі.*

Заўважым, пра ўсе гэтыя страшныя падзеі гаворыцца без аніякіх спачуваньняў ворагу, і гэта гістарычна аргумэнтаваны напамін тым, хто сёньня разводзіць дэмагогію пра “славянскае братэрства” і “шматвековую дружбу нашых народаў”...

У “Прысьвячэньні рыцару А. Рымшу” (Словы Я. Козака, музыка з “Астрамечаўскага рукапісу”) вакальныя партыі належаць Алесю Чумакову – выканаўцу на гусьлях у складзе “Старога Ольсы”. Гукавы рэй ў гэтай кампазыцыі вядуць лютня, цыстра і флейта. Такі інструмэнтальны склад надае рэнэсансавую узьнёсласьць усёй музычнай палітры згаданага твору. Такім-жа мэтадам адроджана і яшчэ некалькі кампазыцыяў на рыцарскую тэматыку: “У каралеўскім войску”, “Рэвель”, “Сьпявалі ўланы...” (мэлёдыі і словы паводле фальклёру), “Песнь Монаршэ Вечнэму” (Тэкст узяты зь “Дзесяцігадовай аповесці ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла”, а мэлёдыя – зь “Piesni Chwal Boskich” Яна Зарэмбы 1558 г.) і інш.

Акалічнасьці “замежных вайсковых апэрацыяў” ваяроў ВКЛ можна ўзнавіць паводле “Песьні аб Будзіне”, калі нашыя продкі ў складзе “кааліцыйных сілаў” удзельнічалі ў вызваленьні часткі Будапешту – Буды-Будзіна ад туркаў. Зноў-жа апісваецца жорсткасьць, лютасьць да ворагаў. Аніякай паліткарэктнасьці тут і не чуваць! Толькі жорсткі гук колавай ліры надае драматызму крываваму аповеду.

Вядомы дасьледчык беларускага фальклёру Л. Салавей лічыць, што трагічныя падзеі, якія былі апісаны ў Хроніцы Марціна Бельскага (16 ст.), натхнілі невядомага народнага аўтара на стварэньне баляды “Рыцар Байда” (Пазаабрадавая паэзія. Мн., 2002). Вэрсыю гэтай баляды і выконвае гурт “Стары Ольса” ў завяршэньні праграмы новага альбому. У ёй апавядаецца, як мужны рыцар Байда помсьціць турэцкаму цару забойствам не за свае пакуты, а за тое, што цар намаўляў яго здрадзіць, за абражаную рыцарскую годнасьць, за ганебны спосаб пакараньня – праз падвешваньне за рэбрыну. Бо Байда – рыцар, якому вельмі важна пасьлядоўна, да апошняга імгненьня жыцьця, падпарадкоўвацца рыцарскаму кодэкс гонару:

*Лучшэ цар табе было галаву*
*Галаву с плеч Байдавых зьняці;*
*І па Байдавай рыцара смерці*
*Ды з гармат ды з гармат страляці!*

Калі загучаць апошнія акорды гэтай баляды, то зацікаўлены слухач не адчуе стомы ад даволі складнай гістарычнай і музычнай канвы альбому. Бо ня можа стамляць тое, што вяртае нам гістарычную памяць, наталяе нашую прагу да вывучэньня невядомага ў гісторыі нашага народу.

Хочацца адзначыць, што новы альбом гурта “Стары Ольса” ня змог-бы дайсьці да слухачоў без падтрымкі шаноўных дабрадзеяў, у тым ліку і спадарыні Ірэны Каляда-Сьмірнай, а таксама, кіраўніцтва Дабрачыннага фонду “Chairperson of the Charity Fund Ethnic Voice of America” (USA). Добрыя намеры заўсёды вяртаюцца да людзей добрымі справамі!

***Анатоль МЯЛЬГУЙ,***
***музычны аналітык***
***Фота аўтара.***

**Вышэй рэцэнзаваны СД можна замовіць у рэдакцыі “Беларуса” даслаўшы чэк на $12.**

# Беларускія магілы ў Джорданвіле

Сьвята-Троіцкі манастыр у Джорданвіле, штат Нью Ёрк, непадалёку ад мяжы з Канадаю, - месца паломніцтва расейскіх праваслаўных вернікаў: тут знаходзіцца рэзыдэнцыя першагерарха РПЗЦ Мітрапаліта Лаўра, тут месьціцца сэмінарыя. Але ў гэтым цэнтры расейскага праваслаўя за мяжою ёсьць і дарагія беларусам магілы.






Самая вядомая, напэўна, магіла архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) (8.09.1904-3.10.1983), аўтара кнігі "Беларусь у гістарычным дзяржаўным і царкоўным жыцьці» (Буэнас-Айрэс, 1966). Ягонаю пастацьцю й спадчынаю ўсё актыўней пачынаюць цікавіцца беларусісты: выдрукаваныя дзьве працы зь ягоных архіваў, «Матэрыялы да Гісторыі Праваслаўнай Беларускай Царквы» (Жыровіцы, 2004) і «На ніве Хрыстовай» (Нью Ёрк-Менск-Варшава, 2005). Пісала пра яго й нашая газэта (А. Юрг «Расейцы не датрымалі дагавору..». «Беларус», № 491 сьнежань 2003 г.). Магіла Апанаса знаходзіцца каля самай царквы.

На сьвецкіх «новых» могілках знайшлі свой апошні прытулак беларускі пісьменьнік Уладзімер Сядура (Глыбінны) (24.12.1910-14.05.1995) і ягоная жонка Ірына (13.07.1923-3.01.1998). Праўда, ні пра якую «беларускасьць» на магілах згадак няма; паломнікі могуць толькі даведацца, што тут ляжыць «профессор литературы».

І мала хто ведае, што ў Джорданвіле ёсьць яшчэ адна беларуская магіла – таксама каля царквы, на самым ушанаваным месцы. Гэта магіла заснавальніка манастыра нашага земляка архімандрыта Панцеляймона (Ніжніка).

Пётра Ніжнік нарадзіўся 16.01.1895 г. у Рэчыцы у вялікай сялянскай сям'і. Калі яму споўнілася 18 гадоў, бацькі вырашылі ажаніць сына. Будучы сьвятар надта не хацеў заводзіць уласную сям'ю і, каб ня быць цяжарам бацькам, адпрасіўся ў Амэрыку: нямала ягоных знаёмых выпраўляліся за акіян, адкуль, знайшоўшы працу, дасылалі грошы дахаты. Бацькі згадзіліся, адно маці прасіла: «Сынку, не згубі Бога».

У 1913 годзе 18-гадовы юнак ступіў на амэрыканскую зямлю. Знайшоў сабе працу – на цукровым заводзе ў прыгарадзе Чыкага. 1918 год стаўся пераломным у жыцьці юнака: 18 красавіка ён паступае ў Ціханаўскі манастыр, заснаваны ў 1905 годзе архіепіскапам Паўночна-Амеэрыканскім і Алеуцкім Ціханам. У 1920 годзе Пётра пастрыгаецца ў манахі й яго высьвячаюць у іерадыяканы, а 10 красавіка 1921 году ў сан іераманаха.

Пра час архімандрыт Панцеляймон пазьней згадваў: "За дзесяць гадоў у Ціханоўскім манастыры я пабачыў, як нягроста жыць сапраўдным манаскім жыцьцём маладому манаху. І я пачаў задумляцца пра іншае месца. У гэтым мне дапамог айцец Іосіф, тады Іван Андрэевіч Колас, які быў рэгентам-псаломшчыкам у парафіі. Ён прыехаў да нас у манастыр пажыць – гэтак мы пазнаёміліся. Разам мы надумалі зарабіць троху грошай, каб набыць які кавалак зямлі. З гэтай мэтаю я пайшоў працаваць на завод Сікорскага ў Стратфардзе. І ў 1928 годзе набылі зямлю, на якой сёньня месьціцца наш Сьвята-Троіцкі манастыр. Але мы працягвалі працаваць на заводзе, пакуль цалкам ня выплацілі пазыку. У 1930 годзе вясною пасьля Пасхі я пакінуў працу і прыехаў на сваю зямлю. Першым маім набыткам у гаспадарку быў імбрык".

Вясною 1935 году айцом Панцеляймонам і манахамі, што былі далучыліся да яго, была збудаваная царква ў гонар Троіцы, нарыхтаваны матар'ял на дом з 16 келій, набылі карову й коней. Але на асьвячэньне царквы адбылося няшчасьце: ад сьвечкі загарэлася царква, і ў лічаныя імгненьні на вачох манахаў - згарэла. Трэба было пачынаць усё спачатку.



У сярэдзіне 40-х гадоў манахі цалкам разьлічыліся з пазыкаю за зямлю, нават набылі дадатковую; узьвялі прыбудовы для кароў, займелі найсучасьнейшы лінатып, друкарскі варштат. Айцец Панцеляймон хоць і не займеў адукацыі, аднак лічыў кнігадрукарскую працу вельмі важнаю; што праўда, рабіў гэта своесабліва: з раозных кнігаў выдзіраў упадабаныя кавалкі і злучаў іх у адну новую. Ягоныя выданьні й сёньня захоўваюцца ў манастыры.

Архімандрыт Панцеляймон пражыў доўгае жыцьцё і адышоў у 1984 годзе.

***Л. Ю.***

# Купальле ў Нью Ёрку

***Заканчэньне з бачыны 1***

песьні, гулялі ў традыцыйныя гульні. Валя Якімовіч так захапіла гэтым прысутных, што ўсе паставіліся да гэтага з надзвычайнай адказнасьцю і сур'ёзнасьцю. Як зачараваныя хадзілі мы вакол агню, пяючы, як і нашыя слаўныя продкі тысячагодзьдзі таму. Так мацавалася тая нябачная сувязь паміж мінулым і сучаснасьцю, у цьвёрдай хадзе вакол ачышчальнага жывога вогнішча нараджаліся новыя беларусы.

Ёсьць сьвяты агульнанацыянальныя, для нас гэта 25 Сакавіка, Дзень вайсковай славы 8 верасьня, Угодкі Слуцкага Збройнага Чыну, 27 жніўня – гэта сьвяты найноўшае гісторыі. Сьвяткуючы іх, мы дэманструем усьведамленьне ролі, якую гэтыя падзеі адыгралі у лёсе нашай краіны. Купальле-ж – гэта традыцыйнае агульнанароднае сьвята, якое дайшло да



нас праз тасячагодзьдзі. І адзначаючы яго, мы дэманстравалі моцны духоўны і культурны падмурак, што закладзены ў аснову нашае нацыі.

Прыемна было, што вакол панавала чыстая беларуская гаворка. Па ўспамінах ранейшых удзельнікаў Купальля, так было не заўседы. Нават ужываньне пасьля карагодаў і гулень традыцыйнага купальскага напою крупніку, ( некаторыя пачалі сьвята і да гульняў), панаваньню нашай мовы не перашкаджала.

26 чэрвеня ранкам людзі павольна, размаўляючы між сабой, зьбіраліся дахаты... Усе глядзелі адзін на аднаго ўжо неяк па-іншаму. Шмат з тых, для каго беларускасьць раней была нечым незразумелым, ужо зьмяніўся назаўсёды...

***Мікола ЦІМАШЭНКА***

# Васіль ПЛЯСКАЧ

## (16.02.1916 - 19.03.2006)

Нарадзіўся Васіль Пляскач у Наваградку падчас І-й Сусьветнай вайны.

У 30-я гады мінулага стагодзьдзя скончыў Віленскі ўнівэрсытэт імя Сьцяпана Батуры. У 1943-м годзе ажаніўся з Тацьцянай Сапега.

У 1944-м годзе сям'я Пляскач разам з маленькаю дачкою пакінулі Беларусь. Аказаліся ў лягеры для ўцекачоў у Швайцарыі на мяжы з Аўстрыяй. Потым пяць гадоў яны пражылі ў Нямеччыне пакуль не атрымалі дазвол выехаць у Злучаныя Штаты.

У ЗША сп. Пляскач, ягоная жонка і двое дзяцей спачатку жылі ў штаце Масачусэц, дзе ў іх нарадзілася трэйцяе дзіця, а пазьней, у пачатку 50-х гадоў, перабраліся ў горад Дэтройт. Тут у іх нарадзілася чацьвёртае дзіця.

Сп. Пляскач працаваў на заводзе кампаніі Студэбэкер-Пакард, а пазьней Крэйсьлер у аддзеле дызайну, адкуль і пайшоў на пэнсію ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Быў актыўным у рэлігійным і грамадзкім жыцьці беларускай грамады ў Дэтройце.

Пасьля сьмерці пакінуў у смутку сына Пятра, дачок Сьвятлану (Вольпэ), Алену (Шаўэр) і Марыю (Пляскач), сем унукаў і аднаго праўнука.

# Люба КОРЧЫК

## (15.05.1911 - 19.05.2006)

Нарадзілася Люба Корчык у вёсцы Дзялацічы Наваградзкага раёну. У канцы вайны ў Нямеччыне згубіла мужа.

У 1951 годзе з дачкой Зояй і сынам Юркам прыехала ў ЗША і пасялілася ў горадзе Спрынгфільдзе ў штаце Масачусэц. Належала да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, падтрымлівала беларускі друк.

Пахаваная на могілках **Oakgrove** разам з дачкою і сынам.

***Б. РУСАК***

## Інтэрвію зь Юляй Вінакуравай-Шатэрнік

*Заканчэньне з бачыны 4*

лову, ежу ды моцнае надзейнае адзеньне, якое не пакідала камарам аніякіх шанцаў, апрача як памерці з галадухі. Мой муж – заўзяты рыбак, добра ведае, што такое начоўка на беразе возера.

А вось нашыя сябры-мастакі хоць і ведаюць прыроду ня горш за нас, конча пазбаўленыя практычнасьці. Іхнае адзеньне – кароткія (да калена) штаны й кашулі без рукавоў, напэўна, уратавалі ў той вечар ад скананьня цэлую камарыную генэрацыю. Зь ежы яны ўзялі з сабою пераважна пярлоўку, спадзеючыся навудзіць рыбы для каралеўскай вячэры. Ну й навудзілі! Пяць рыбінак-сялявак за дзень! Але нічога. Паставілі мы намёт, паабедалі ўсе разам, адпачылі...

Надыйшоў вечар, заварушылася камарыная каралеўства так, што ні сядзець, ні стаяць, ні хадзіць ня можна. Адно толькі польку скакаць, каб табе ногі да каленяў не паад'ядалі ці да вушэй ня зьелі. І сьмех, і грэх, але неяк пражылі і нават раніцай многія на пленэр выйшлі (дзеля таго-ж і ехалі!).

Тыя-ж, хто меў пры сабе вуды, альбо моцна пацярпеў ад камароў і ня мог цьвёрда трымаць пэндзаля, падаліся вудзіць. Ну, зразумела, і мой Алесь зь імі, толькі ня з вудай, а ў адпаведнай экіпіроўцы для падводнага лову. Зьдзівіліся мастакі, паўсьміхаліся, маўляў, давай-давай... Але прайшло некалькі хвілінаў, і кплівыя ўсьмешкі зьмяніся на ўсьмешкі зьдзіўленьня, а потым і захапленьня: раз – шчупак, два – шчупак, тры – шчупак, ды й чатыры таксама...

Абед атрымаўся сапраўды каралеўскі: юшка, рыбка печаная з цыбуляй, ну й да рыбкі... Як згадаю, аж есьці хочацца.

Да абеду-ж пасьпелі й тыя, хто маляваў. Яны ўражана глядзелі на наш агульны стол, а мы – на іхныя творы й чыё ўражаньне было большым – сказаць не бяруся. Адно толькі камары, напэўна, злосна пазіралі са сваіх узьбярэжных схованак ані не разумеючы, дзеля чаго ўсё гэтае мастацтва, калі так есьці хочацца.

## Блізкія сябры

*Заканчэньне з бачыны 1*

Канешне, галоўным пытаньнем было – чым дапамагчы Беларусі (пад гэтым словам разумелася не лукашэнкаўская дзяржаўная машына, а – нацыянальная дэмакратычная супольнасьць). Аўстралія не такая магутная краіна, як ЗША, і ня мовы сваіх дзядоў. Можна шмат разважаць, чаму так сталася, але я ня стаў-бы вінаваціць ў гэтым ні бацькоў, ні дзядоў. Пытаньне – як зацікавіць англамоўную моладзь беларускай тэмай, каб сёняшнія 17-19-гадовыя ведалі пра сытуацыю ў Беларусі ды маглі распавесьці пра яе сваім сябрам, аднакурснікам, настаўнікам, а ў далейшым – калегам.



*Сустрэча ў парафіі Сьвятых Віленскіх Пакутнікаў.*

блізкая, як Летува ці Польшча. Але Аўстралія мае голас у ААН, такі-ж важкі, як Вялікабрытанія ці Нямеччына. Уласна, гэта ўнівэрсальны прынцып – для беларускай справы няма і ня можа быць "далёкіх" альбо "нязначных" краінаў. Паўсюдна, дзе жывуць беларусы, можна наладзіць палітычнае спрыяньне дэмакратызацыі Бацькаўшчыны.

Ёсьць і яшчэ адная сфэра, дзе дапамога аўстралійскіх беларусаў адчуваецца ўжо сёньня. Гэта – падтрымка выдавецкіх праектаў, найперш БІНіМу. Колькасьць беларускамоўнай літаратуры ў менскіх выдавецтвах скарачаецца, кнігарні практычна цалкам запоўненыя малагустоўнай расейскамоўнай прадукцыяй. У Менску дзяржаўныя выдавецтвы адмаўляюцца друкаваць Васіля Быкава; Натальля Арсеньева, Ларыса Геніюш ізноў пад забаронай. У такіх варунках, ня выключана, адновіцца сытуацыя 50-70 гадоў, калі кнігі шэрагу аўтараў магчыма было выдаць толькі на эміграцыі.

Абсалютовая большыня "трэцяга пакаленьня" беларускай дыяспары ў Аўстраліі (унукі тых, хто прыехаў на кантынэнт ў пачатку 50-ых) ужо ня ведаюць

І гэта яшчэ адное злачынства лукашэнкаўскага рэжыму перад маладым пакаленьнем беларусаў замежжа – яны незапатрабаваныя на Бацькаўшчыне. На гістарычную радзіму едуць тысячы амэрыканцаў, канадыйцаў, аўстралійцаў украінскага паходжаньня – працаваць па кантрактах у прадстаўніцтвах фірмаў і карпарацыяў, якія зацікаўленыя ў спалучэньні заходняй адукацыі й веданьня ўкраінскай мовы. У Беларусі перавагі аддаюцца расейскаму напаўкрымінальнаму бізнэсу; набыць нерухомасьць у Беларусі могуць толькі грамадзяне Беларусі й Расеі. У маладых беларусаў – унукаў тых, хто калісьці эміграваў з Бацькаўшчыны, няма стымулаў ехаць на працу ў Менск.

Але часы могуць зьмяніцца. Ды й сёньня моладзь можа шмат чым дапамагчы парыётам ў Беларусі, асабліва ў распаўсюдзе інфармацыі.

І няма сумневу, што старэйшае пакаленьне аўстралійскіх беларусаў перадасьць маладзейшым свой партыятычны імпэт.

*Сяргей НАВУМЧЫК*
*намесьнік Старшыні Рады БНР*

# МАРШ

## ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

У нядзелю, 16 ліпеня, у Нью Ёрку пройдзе Марш Паняволеных Народаў, першая падзея Тыдня Паняволеных Народаў, у якім традыцыйна бярэ удзел беларуская грамада Амэрыкі.

9:00 - раніцы збор удзельнікаў на 5-й Авэню і 59-й вуліцы (ля фантану гатэля Plaza).

10:00 - імша за Паняволеныя Народы ў Катэдры Сьвятога Патрыка.

11:00 - марш па 5-й Авэню да 72-й вуліцы.

12:00 - афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў (Цэнтральны парк).

У чацьвер, 20 ліпеня, а 11:00 пройдзе дэманстрацыя перад будынкам Аб'еднаных Нацыяў, а ў нядзелю 23 ліпеня - ўрачыстае набажэнства ў лютаранскай царкве на 122 E. 88 вул. (пры Лексінгтан Авэню) і цырымонія закрыцьця.

Арганізаваны Камітэтам Паняволеных Народаў, які паўстаў у 1950-я гады, Тыдзень Паняволеных Народаў, часткаю якога ёсьць гэты Марш, быў масавай імпрэзай эміграцкіх арганізацыяў з краінаў, што калісьці зьняволіў савецкі камунізм, у тым ліку Беларусі. Сёньня большасьць тых краінаў вызвалілася і здабыла свабоду.

Беларусь засталася паняволенай прамаскоўскім дыктатарскім рэжымам. Гэта край, дзе зьліквідаваная дэмакратыя, парушаюцца правы чалавека, зьнішчаецца нацыянальная культура. Таму беларуская грамада працягвае браць удзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, выказваючы свой пратэст.

Свабоду Беларусі! Далоў дыктатуру! Дыктатара пад суд!



### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок | 130 |
| К. Акула | 60 |
| С. Будкевіч | 50 |
| Б. Русак | 50 |
| В. Шукелойць | 50 |
| А. Астапчук | 30 |
| Г. Залеўская | 30 |
| І. Казлоўскі | 30 |
| В. Кузьменка | 30 |
| Л. Пузач | 30 |
| К. Сазоненка | 30 |
| Т. Сяднёва | 30 |
| І. Фанская | 30 |

**Замест кветак на магілу Веры й Францішка БАРТУЛЯ:**

| | |
|---|---|
| С. Мурог | 200 |
| Е. Маркоўская | 60 |

**Замест кветак на магілу Веры БАРТУЛЬ:**

| | |
|---|---|
| праф. Т. Бэрд | 200 |
| Х. Кажаневіч | анг. фунт. 20 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ



Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*

ISSN 1054-9455